Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 12 (66) Нядзеля, 15-га Сакавіка 1925 г. м. Вільня. Год II.

# ГРАМАДЗКІ ГОЛАС

Выходзіць два разы ў тыдзень. Цана нумару 15 грошай.

Падпісная цана на 1 месяц 1 злоты 80 гр. За граніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Wilno, ul. Niemiecka, 1 „Hotel Sokołowskiego" pokój № 26. Рэдакцыя адчынена ад 10—2 гадз. Рэдактар прымае ад 11—1 гадз. удзень, апрача сьвятаў.

Цана абвестак на 1 стар. — 15 гр. за радок пэтыту: у тэксьце — 10 гр. на апош. стар. — 5 гр.

*Памятайце аб дарагоўлі друку, а дзеля гэтага не шкадуйце грошай на падпіску, каб ня была спынена вам высылка „Грамадзкага Голасу"!*

## Азнакі рэакцыі.

Паміж польскаю дэмакратыяй і рэакцыяй паўстае барацьба за характар выбарчае ордынацыі для сельскіх і гарадзкіх самаўрадаў, што ўжо выразна абрысавалася ў адміністрацыйнай камісіі Сойму.

Рэакцыйныя польскія кругі стараюцца ўвясьці пры выбарах у самаўрады цэнз выбаршчыка, абапёрты на яго маемасьці, гэта значыць, што ў залежнасьці ад уладаньня большай маемасьцю выбаршчык можа мець ня толькі адзін голас пры выбарах у самаўрад, а навет два ці болей галасоў. Дзеля таго, што багатых людзей заўсёды бывае менш як бедных, дык выходзіць, што большасьць насяленьня можа ў сваім выбарным праве быць пакрыўджанаю.

„Нарадовая" польская дэмакратыя дамагаецца дадатковых галасоў для выбаршчыкаў у самаўрады на аснове некалькіх родаў цэнзу, як: служба ў войску, аплачваньне непасрэдных падаткаў, век, уменьне чытаць і пісаць папольску. Вітосава партыя „Пяст" стаіць толькі за паўлічэньне голасу заможных сялян пры выбарах у самаўрады, таму што гэта партыя бароніць інтарэсы толькі *заможнага* сялянства, будучы партыяй сялянскаю. Хрысьціянскія дэмакраты стаяць за цэнз веку і адукацыі.

З пункту гледжаньня права ўсе гэтыя тэндэнцыі нязгодны з духам аснаўных законаў Польскае Рэспублікі, водлуг якіх *усе грамадзяне маюць роўныя правы перад законам*, на чым і будуецца самы дэмакратызм. Законнае права грамадзянінам траціцца толькі тады, калі яго суд абмяжоўвае ў праве, пакараўшы за благі паступак, інакш кажучы ў правох абмяжоўваюцца рознага роду праступнікі, хворыя душою (вар'яты), непоўналетнія — усе тыя грамадзяне, якіх прынцып дэмакратызму нідзе ніколі сабою не ахапляе. Грамадзянін у нармальным значэньні гэтага слова—ня можа быць абмяжоўваны ў сваіх правох пры ўсялякіх выбарах толькі за тое, напрыклад, што ён мала плаціць непасрэднага падатку ў дзяржаўны скарб, таму што ён бедны і з яго няма чаго і ўзяць, або за тое, што ён ня мае столькі, а ня гэтулькі гадоў, што ён ня ўмее чытаць ды пісаць. Пры парадку дэмакратычным кожны грамадзянін і грамадзянка Рэспублікі мае права падаваць пры выбарах *толькі адзін голас* — кожны галасуе толькі сам за сябе.

Якая-ж роўнасьць грамадзян перад правам можа быць пасьля таго, як дзяржаўны закон вазьме дый пазволіць некаму з грамадзян падаць пры выбарах замест належнага яму толькі аднаго голасу, ну, хаця-бы толькі два галасы, бяручы пад увагу высокую адукацыю гэтага грамадзяніна або высокі непасрэдны падатак, які ён плаціць дзяржаве ці ўмее лепей за ўсіх пісаць, гаварыць або чытаць папольску?

Гэткі закон, калі-б ён і быў прыняты Соймам, зьявіўся-б бязумоўна супрэчным з Конституцыяй Рэспублікі, бо Конституцыя—гэта аснаўны, грунтоўны закон дзяржавы, акрасьляючы яе ўнутраны лад, і Польская Конституцыя выразна зазначае, што духу яе ня можа пярэчыць ніводзін закон.

Выходзіць так, што рэакцыйныя польскія партыі ня могуць правясьці мілае ім выбарчае ордынацыі для самаўрадаў бяз зьмены Конституцыі ці простага, сьвядомага яе нарушэньня.

І іхнія замеры яшчэ больш дзівачна выглядаюць, калі возьмем пад увагу, што права напісьменнага, напр., грамадзяніна ў практыцы шмат памяншае сваё значэньня ўжо самым фактам яго няпісьменнасьці: ён сам проста, непасрэдна ня можа пазнаёміцца, як належыць, са сваімі правамі і са сваімі абавязкамі грамадзяніна Рэспублікі, напісанымі ў законах, даных імем усяго народу выбарным народным прадстаўніцтвам, якім у Польшчы зьяўляюцца дзьве палаты — Сойм і Сэнат Рэспублікі.

Ня толькі мы, беларусы, а навет і самыя шчырыя палякі па нацыянальнасьці далёка ня ўсе ўмеюць чытаць і пісаць папольску.

Скуль-жа мы—беларусы—маглі навучыцца польскае мовы, якая ад прыроды нам ня дана, бо мы гаворым сваею асобнаю моваю прадзедаў нашых — беларускаю моваю?

Хто мог нас навучыць пісаць ды чытаць папольску, калі дасюль няма для гэтага патрэбнага ліку народных школаў? Ясная справа, што навет у нашых родных беларускіх школах мы ня можам, жывучы ў межах Польскае Рэспублікі, адмовіцца вучыцца чытаць і пісаць папольску побач з навукаю, выкладанаю ў школе тою моваю, якая для нас найлягчэйшая, бо змалку мы пераймалі сваю родную мову з малаком матчыных грудзей. Знаёмасьць з дзяржаўнаю моваю мае для грамадзяніна, незалежна ад таго, якое сам ён нацыянальнасьці, — вялікае практычнае значэньне, як вялізнае значэньне для чалавека наагул мае тое, што ён умее чытаць і пісаць.

Але-ж ніколі выбарнае права грамадзяніна пры дэмакратычным парадку ня можа быць абмяжована, калі грамадзяніну бракуе веды дзяржаўнае мовы.

Дамаганьні рэакцыйных польскіх партыяў са ўсім цяжарам пагражаюць наваліцца асабліва на нас, як беларусаў, а будучы супрэчнымі з духам Польскае Конституцыі дамаганьні гэтыя зьяўляюцца грознай азнакай адкрытай рэакцыі, запанаваўшай у галовах некаторых слаёў польскага грамадзянства, якім бракуе сьвятое пашаны да аснаўных законаў свае ўласнае дзяржавы, пашаны да падвалін польскае дзяржаўнасьці.

---

## Палітычны агляд.

Заўсёды дагэтуль усе думалі, што пераможаны павінен баяцца пераможцы. Калі ў 1871 г. Нямеччына разьбіла Францыю, узяўшы ў палон амаль што ня ўсю францускую армію разам з імпэратарам, тады на Францыю была наложана контрыбуцыя ў разьмеры 5 мільярдаў франкаў. Гэта сума ў той час здавалася вялізарнай. І гэтая контрыбуцыя была адтрымана немцамі менш як у працягу 2-х гадоў, дзеля таго, што немцы окупавалі сталіцу Францыі, Парыж, і не пайшлі-б з францускай тэрыторыі, пакуль ня была-б выплачана контрыбуцыя. Дзеля гэтага французы, каб хутчэй пазбавіцца ліпняга цяжару — ўтрыманьня нямецкіх окупацыйных войск, здабыліся на найцяжэйшыя ахвяры, абляжылі сябе нячуванымі падаткамі, сабралі патрэбную суму і выплацілі немцам, каб толькі яны хутчэй выйшлі з іхняй тэрыторыі. А немцы былі зусім спакойны аб сваіх граніцах, не баючыся з боку Францыі ніякага рэваншу. Нямецкая прамысловасьць і наагул багацьце ўсяго нямецкага народу пасьля гэтай вайны і 5 мільярдаў контрыбуцыі значна паднялося. Зусім інакш дзеецца цяпер, пасьля няўдачы Нямеччыны і перамогі Францыі, Італіі і Англіі. Нямеччына пераможана, абяззброена і не мае права зброіцца і ўтрымоўваць армію, якую захоча, а Францыя, нікім не абмяжована ў сваім зброеньні і праве ўваходу з кім хоча ў саюз, баіцца пераможанай Нямеччыны і ўвесь час баіцца за свае граніцы. Пытаньне аб абясьпечаньні ўсходніх граніцаў Францыі ад нападу з боку Нямеччыны праз увесь час зьяўляецца самым важным. Але гэтага яшчэ мала. Францыя, выйшаўшы з вайны пераможцам, адтрымаўшы і адтрымоўваючы ад Нямеччыны контрыбуцыю, перажывае больш цяжкі эканамічны і фінансавы крызыс, чымся пераможаная Нямеччына. У Нямеччыне добра працуюць фабрыкі і заводы, нямецкая прамысловасьць удачна конкуруе на сусьветным рынку, курс нямецкай валюты пасьля стабілізацыі стаіць зусім моцна, ня гледзячы на тое, што яна павінна плаціць контрыбуцыю і што пазбаўлена сваіх колёніяў і часткі ранейшай тэрыторыі, а ў той час Францыя робіць пярэпалах з прычыны бязупыннага падаўшага курсу франка, павялічэньня даўгоў і падаткаў. Падаткі ў Францыі шмат вялікшыя, чымся ў Нямеч-

чыне. Францыя мае шмат больш унутраных і вонкавых даўгоў за пераможаную Нямеччыну. Жыхар Францыі шмат больш плаціць падаткаў, чымся жыхар Нямеччыны, і апрача ўсяго гэтага неспакойны за сваю будучыну, ў той час, як немец зусім спакойны, ведаючы, што ніхто на яго не нападзе і не адбярэ ад яго маемасьці.

Але каб скончыць з гэтымі парадоксамі, трэба яшчэ ад'значыць адзін прыклад, якім цяпер занята ўся Эўропа. Нямецкая монархія і яе саюзьнікі скампраміталі сябе, прайграўшы вайну. Здавалася-б, што ёсьць усе шансы, каб рэспубліка і яе староньнікі ўзмацаваліся. Аднак, узапраўды выходзіць зусім інакш. Рэспубліка істнуе толькі на паперы і то няма ведама, ці доўга яна пратрымаецца. Фактычна ўся ўлада ў руках монархістых, прайграўшых выкліканую імі вайну і прычыніўшых Нямеччыне вялізарныя матар'яльныя шкоды.

Зусім інакшы працэс дзеецца ў праціўным лагеры, ў Францыі. Францыя, як ведама, перамагла дзякуючы нацыянальнаму пад'ёму. Нацыянальны элемэнт у перамозе Францыі згуляў галоўную ролю. Маршал Фош, быўшы прэм'ер Клемансо, Мільеран, Пуанкарэ — вось тыя асобы, якія прычыніліся да перамогі і яе ўзмацаваньня. Фош падрыхтаваў, Клемансо стварыў, а Пуанкарэ і Мільеран пачалі рэалізацыю вэрсальскага трактату. Але на каго цяпер зьвернены вочы большасьці францускага народу? На Фоша, Клемансо, Пуанкарэ ці Мільерана? Зусім не. На Кайо.

Хто такі Кайо і што ён зрабіў для свае бацькаўшчыны ў час вайны? Кайо—гэта быўшы перад вайной францускі прэм'ер і міністар фінансаў. Па сваіх пераконаньнях блізка стаіць да радыкалаў, як і Эрыё. Гэта чалавек нязвычайнай энэргіі і знаўца фінансавых справаў. Ен гэтак сьмелы і рашучы ў сваіх пераконаньнях і дзеях, што ў часе вайны не баяўся выказваць свае сымпатыі немцам. Ен праз увесь час быў ворагам вайны. Дзеля гэтага яго западозрылі ў дзяржаўнай здрадзе і ён быў высланы з Францыі і пазбаўлены францускага грамадзянства. Ці мог ён спадзявацца, што яму будзе дазволена ізноў вярнуцца ў Францыю? Узапраўды лёс крута павярнуўся, бо Кайо ня толькі адтрымаў амністыю, калі ўлада перайшла да кабінэту Эрыё, але на яго цяпер глядзіць левы францускі блёк, у руках якога цяпер дзяржаўная ўлада, як на будучага прэм'ера Францыі. Нядаўна для яго быў наладжаны гэткі банкет, якога ня меў яшчэ ніводзін пераможца. Было прысутных больш як 2000 палітычных прадстаўнікоў. Было больш як 200 дэпутатаў і 50 сэнатараў, старшыня палаты дэпутатаў і міністры. Уся левая прэса была занята толькі вядзеньнем пропаганды ў кірунку перадачы дзяржаўнае ўлады ў рукі Кайо, ў той час, як правая опозыцыйная прэса і опозыцыя трымаюць сябе вельмі асьцярожна і захоўваюць нэйтралітэт. А сам Кайо на гэта глядзіць, як на свой лёс. У Лёндане ўжо лічацца з магчымасьцю пераходу ўлады ў хуткім часе ў рукі Кайо, як з нечым неабходным, навет кажуць, што гэта можа стацца праз 1—2 месяцы. А ў Бэрліне агульная радасьць. Дык-жа Кайо свой чалавек Ен цярпеў за немцаў, за сымпатыі да іх і за сваю пропаганду проці вайны. І гэты чалавек праз 1—2 месяцы можа стаць прэм'ерам Францыі. Няўжо-ж гэта ня будзе выглядаць цудам у нашыя часы, гэткім самым, як зіма на Каўказе!

*N.*

---

# ПАЛІТЫЧНАЯ ХРОНІКА.

**У Польшчы.**

Міністар публічных работ Рыбчынскі ў гутарцы з журналістымі ў справе будаўлянай у бліжэйшай будучыні, заявіў, што будаўляны рух апіраецца, галоўным чынам, на бюд'жэце. У першую чаргу Міністэрства публічных работ пачне будаваць чыноўніцкія дамы на суму 8 мільёнаў, апрача таго ў бюд'жэце прадбачана каля ½ мільёна на рэмонты. Будаўляны рух абыймае ваяводзтвы: наваградзкае, палескае, валынскае, беластоцкае і Віленшчыну, апрача таго на ўрадовы кошт будуць пабудованы дамы ў Варшаве, Кельцах, Станіславове і Таруні. Міністар кажа, што магчыма, што адтрымаюцца крэдыты спэцыяльныя з гэт. наз. амэрыканскіх крэдытаў.

Будаваць будуць консорцыі гэткім чынам, што амэрыканскай пазыкай урад будзе пакрываць усе расходы. З конфэрэнцыяў, якія адбыліся па гэтаму пытаньню, міністар робіць вывады, што ўраду ўдасца паставіць будаўляны рух на гэткія асновы, што 50% коштаў будаваньня будзе пакрываць доўгасрочная пазыка, зробленая на першую гыпотэку, а 10% павінен будзе заплаціць грашыма той, хто будуецца.

На пытаньне, ці міністар спадзяецца палёгкі для тых, хто будзе будавацца, ён адказаў, што гэткія палёгкі будуць і навет вялізныя. Міністэрства скарбу думае аб падатковых палёгках, аб звальненьні ад скарбовых даўгоў, падатку ад капіталаў і г. п. Прадбачана таксама й звальненьне ад даходнага падатку на 5 гадоў за новапабудованыя дамы. Таксама будзе абніжаны чугуначны тарыф, каб аблягчыць дастаўку будаўляных матар'ялаў.

На паседжаньні адміністрацыйнае камісіі Сойму пры разглядзе пытаньня аб праве галасаваньня пры выбарах у самаўрады 16 галасамі паслоў правіцы і «Пяста» проці 15 галасоў лявіцы і нацыянальных меншасьцяў адкінена прапазыцыя аб прынцыпе роўнасьці галасаваньня.

У нядзелю 15 сакавіка мае адбыцца ў Варшаве конгрэс Польскае Народнае Партыі „Wyzwolenie i Jedność Ludowa". Паміж іншым на парадку дня стаяць справы: адносіны да Ураду п. Грабскага, выбарчая ордынацыя і справа роспуску Сойму. У той самы дзень мае адбыцца у Варшаве і зьезд партыі «Пяст».

**За граніцай.**

У **Нямеччыне** 12. III. адбылася ў рэйхстагу прысяга д-ра Сімонса, выбранага намесьнікам прэзыдэнта Рэспублікі.

Паводлуг вестак з **Каіру**, агульныя выбары **ў Эгіпце** адбыліся спакойна, апрача места Александрыі, дзе былі спробы дэмонстрацыяў. З 61 месца староньнікі Заглюль-пашы адтрымалі 27, рэшта належыць незалежным і лібэралам.

Паводлуг вестак з **Масквы**, ў **Іркуцку** 3 **дацкія** вураднікі міжнароднага тэлеграфу застрэлілі звозчыка за тое, што ён, зьвяртаючыся да іх, назваў іх „таварышамі".

Падчас праезду самаходам з **Багдаду ў Бэйрут** францускага віцэ-консуля з сям'ею на яго напала збройная банда. Жонка віцэ-консуля забіта. Бандыты адабралі ад віцэ-консуля портфэль з важнымі дакумэнтамі.

**Баўгарскі** прэм'ер Цанкоў зьвярнуўся да міжсаюзнае кантрольнае камісіі з просьбаю аб пазваленьні павялічыць контынгэнт баўгарскае арміі на 4.000 чалавек, дзеля падтрыманьня ўнутранага парадку й барацьбы з камуністычным рухам.

10. III. у **пруским ляндтагу** адбыліся выбары прэм'ер міністра. 222 галасамі з агульнага ліку 443 галасаваўшых выбраны прэм'ерам Маркс.

Паводлуг вестак з **Коўна, літоўскі** урад парваў зносіны з **Ватыканам.** Папскі нунцыюс адтрымаў загад пакінуць Коўна цераз 48 гадзін. Адначасна Літва адклікала свайго прадстаўніка пры Ватыкане.

ПАТ передае вестку з **Масквы**, што Фрунзэ выдаў загад па арміі, якім адпаўляюцца ў ёй нармальныя адносіны; ўлада ў войску належыць загадчыкам і начальнікам аддзелаў; компэтэнцыя палітычных камісараў будзе абмяжована справамі прасьветы і палітычнага кіраўніцтва аддзеламі.

Паводлуг вестак з **Жэнэвы**, ў суботу 14. III Радаю **Лігі Народаў** мела разглядацца пытаньня аб нацыянальных меншасьцях у **Літве.**

Сэкрэтар **турэцкага** пасольства у Маскве заявіў супрацоўніку „Известий", што агульны лік **паўстанцаў-курдаў** не перавышае 6.000. Паўстанцы абкружаны ўрадовым войскам і ахвотніцкімі аддзеламі.

---

# Агляд прэсы.

У расейскай варшаўскай газэце „За свободу" (№ 61 за 4-III) адзін з эмігрантаў Юры Ліпероўскі выступіў з вельмі цікавым артыкулам „В день траура Грузін".

Ад'значыўшы, што на сьвяце варшаўскае грузінскае колегіі ў мінулую нядзелю ў цэркві было ня мала ўкраінцаў і саўсім ня відаць было прадстаўнікоў расейскае эміграцыі, аўтор вельмі востра крытыкуе адсутнасьць „духу свабоды" сярод гэтых (расейскіх) эмігрантаў тады, калі йдзе аб свабоду іншых нацыянальнасьцяў, а не расейцаў. Ен паміж іншым піша:

> О, мы прыгожа дэклямуем гімны свабодзе, калі памінаем ахвяры бальшавіцкага тэрору і, пэўна-ж, саўсім мы шчырыя, калі жадаем нашай радзіме вызваленьня ад ненавіснае ўсім нам, чужое для народу, ўлады!
>
> Але нам чужы ўжо патос „свабоды наагул". Мы даўно „перагледзелі" свае былыя сэнтымэнты і, ў вялізнай большасьці, стыдаемся нашых вясьняных настрояў у дні лютаўскае рэвалюцыі. Гэта тое, аб чым не гаворыцца. „To, o czem się nie mówi".
>
> Але! мы можам задзіўляцца патрыятычнаю фігураю Вільгэльма Тэля і горача гаварыць аб вядомай „апошняй тысячы" Гарыбальды. Але зразумець самастійнікаў - украінцаў

---

# З ПРЫЗЫВУ.

Карчма Моўшы Хітроўскага ад самага раньня біткам набіта новабранцамі ды іхнімі праважацелямі. Усе пакоі, каморкі, бакоўкі заняты, сталоў бракуе.

Сам Моўша чуць золак, ачухаўшыся ад сну, думаў праз увесь дзень сядзець пры вакне ды талмудзіць з вялікай кніжкі да Бога, маліцца; ён кожны дзень зімовы, з браку гасьцей, меў сабе занятак гэткі.

Неспадзевана дзень прызыву новабранцаў змусіў яго да працы і раздаваньня паўзгніўшых селядцоў, рыбных клёцак, месяц назад вараных, паўбутэлек і бутэлек...

Было клопату з падаваньнем, — яшчэ больш са зьбіраньнем платы.

Працавалі, апроч Моўшы, яго жонка — старая, гразная, з чорным чапцом на галаве і дачка, малая, мізэрная, але з гарбатым, павісшым над тоўстымі губамі, носам і з вялікімі, на лоб вылезшымі, буркалаватымі вачмі. Звалі яе Хайкелэ

На яе найболей і крычалі падпіўшыя бяседнікі.

— Хайкіла! давай сюды гарэлку, — крычаў, асабліва часта, Хрытон Аўсянік з Найдуноў, звольнены толькі што па першай ільгоце. Ен чуў сябе яшчэ моцным пасьля пятай бутэлькі на трох. Ці то яго нутро было так ужо моцным на гарэлку, ці то гарэлка Моўшы была слабаватай, на-полы з вадой, толькі ён крычаў на ўсю карчму:

— Хайкіла, каб цябе!. Ці скора ты? Пры гэтым ён моцна пацьвярджаў свае словы ўсякімі выразамі.

Хайкелэ круцілася, як магла, каб дагадзіць.

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Зблізіўся вечар. Госьці паціху выплывалі, ці вывальваліся з карчмы кіруючыся, па магчымасьці сваімі, ад гарэлкі бясьсільнымі нагамі, хто куды.

Барузьдзіў яшчэ за сталом зусім п'яны Хрытон з сваімі сябрамі. Неўзабаве Моўша і іх выпрасіў за дзьверы... Пры падтрыманьні сяброў высунуўся Хрытон праз дзьверы і разам з імі адразу заваліўся на сьнег... Пасьля ўстаў (Моўша памог — дзякуй яму) і далей, далей пасунуўся па вуліцах места Лепля, кіруючыся да свае вёскі Найдуноў...

Было ўжо цёмна. Пачыналася сьнежная завіруха не на сьмех...

Па дарозе, познай парой, за Леплем маглі спаткаць іх ваўкі... Але... Што ім ваўкі!

або барацьбітаў за незалежнасьць Грузіі—нам ня дана.

Таму што адна справа, калі гутарка йдзе аб іншых, аб далёкай Італіі ці маленечкай Швэйцарыі, і саўсім іншая — калі нам, вялікай Расеі, патрэбны чарнаморскія порты, бакінская нэфта і ўток нэфтавое ракі ў Чорным моры — Батум, а шлях да іх загароджваюць „безсмысленныя мечтанія“ хахлоў ды іншых *інародцаў*.

Мы пляскалі рукамі грузінам за іхняе паўстаньне проці бальшавіцкае ўлады, але зразумець, што яны боруцца ня толькі проці формы ўлады й яе насіцеляў у даны мамэнт, а наагул за незалежнасьць свае радзімы, гэтае „лепшае жамчужыны ў расейскай кароне“ — мы ня хочам альбо... ня маем сілаў.

А калі мы гэта пачуем, мы, ў сутнасьці, ня будзем надта злаваць на бальшавікоў за тое, што яны такі накарылі непакорных грузінаў пад *нозь* Масквы і... тым перахавалі хоць гэтак важнае для нас „Закаўказье“ для тых дзён, калі, пасьля правалу бальшавіцкае ўлады, мы вернемся ў вызваленую ад іх радзіму і завядзём у ёй новы, наш, парадак, вернем да жыцьця добры, стары час...

Далей аўтор развязвае ў тым самым духу і ў адным месцы свайго артыкулу кажа проста:

Але-ж ці ня ўсё роўна паднявольным народам, якога колеру ярмо накладуць на іх іхнія новыя ўладары, калі гэтая зьмена ўлады ня прынясе ім волі і права паводлуг свайго смаку будаваць сваё жыцьцё і навет... называцца!..

Сапраўды цьвярозы голас сярод вялізнае хмары „единонедѣлимских“ эмігрантаў!

# ПА СЬВЕЦЕ.

### Амэрыканскія законадаўцы.

У штаце Дэляўар сэнатар мясцовага парлямэнту Дюпонт Рыдглей зрабіў прапазыцыю аб устанаўленьні пробнага як-бы экзамену дзеля тых, хто хоча жаніцца або пайсьці замуж. Паводлуг проекту гэтага сэнатара, асобам, хочучым жаніцца або пайсьці замуж, павінна быць дана магчымасьць у працягу году выясьніць, ці яны сапраўды здольныя да сужыцьця. Калі яны пражывуць год у згодзе, дык ужо пасьля шлюб павінен быць прызваны неразарвальным. Шмат хто з грамадзян протэстуе проці гэтага законапроекту, лічачы, што аднаго году мала на тое, каб пазнацца, як належыць, маладому й маладой і што асабліва жанчыны лёгка могуць у працягу першага году прыкідацца і ўтойваць свае недахваты.

### Чужаземцам усюды блага.

У амэрыканскі сэнат унесены над'звычайна строгі законапроект аб высылцы чужаземцаў за межы Злучаных Штатаў. Законапроект гэты 10.II ўжо прайшоў цераз конгрэс і цяпер павінен быць зацьверджаны сэнатам. Новым законам касуюцца ўсе ранейшыя ільготы, паводлуг якіх высылку можна было зрабіць толькі пасьля таго, як скончыцца пяцьгадовы срок пражываньня чужаземца ў Амэрыцы. Цяпер можа быць высланы адтуль кожны чужаземец або эмігрант незалежна ад таго сколькі ён гадоў пражыў у Злуч. Штатах, калі толькі ён ня прыняў амэрыканскага грамадзянства. Цікава, што закону дана сіла дзеяць назад, г. зн. да дня яго выданьня.

### Новы доктарскі способ равідаваньня хворых.

Прафэсар Jacoboeus у Стокгольме, вядомы швэдзкі вучоны, выступіў на мэдыцынскай конфэрэнцыі з дакладам аб новым способе агляданьня дактарамі грудное клеткі. Прафэсар знаходзіць, што ўвёўшы цераз скабы маленькі оптычны апарат можна бачыць паверхню лёгкіх. Гэта можа даць доктару магчымасьць адразу пазнаць хваробу і вызначыць патрэбны способ лячэньня яе. Паведаміўшыя аб гэтым парыскія газэты большых падробнасьцяў аб гэтай доктарскай мэтодзе не перадаюць. Аднак-жа гэты способ равідаваньня хворых можа зацікавіць шырокія кругі сусьветнай мэдыцыны і можа зьявіцца новаю здабычаю гэтае навукі.

### Арыгінальная „забастоўка“ пісьменьніка.

Дырэкцыя аднаго з выдатнейшых парыскіх тэатраў нядаўна зьвярнулася да ангельскага пісьменьніка Бэрнарда Шоу з просьбаю, каб ён напісаў для гэтага тэатру сцэнічны гротэск. Дырэктар тэатру, думаючы, як відаць, добра зарабіць, дзякуючы вядомаму імю пісьменьніка, ахвяраваў для яго і значны гонарар. Аднак-жа Б. Шоу адказаў на дырэктарскую прапазыцыю... адмоваю. Вядомы аўтор „Сьвятое Іоанны“ напісаў да тэатральнага дырэктара пісьмо, дзе піша: „Вельмі шкада, што не магу для Вашага тэатру напісаць п'есы. „Сьвятая Іоанна“ была маею апошняю сцэнічнаю штукаю. Я ўжо настолькі пастарэў, што магу адмовіцца ад сцэнічных твораў, пакідаючы далейшую працу ў гэтым кірунку маладым драматургам“.

У парыскіх і лёнданскіх тэатральных кругох гэты адказ вядомага драматурга выклікаў вялізарную сэнсацыю. Але староньнікі таленту Бэрнарда Шоу ня лічаць заяву яго саўсім ужо трагічнаю і літаральнаю. Адна з парыскіх тэатральных часопісяў прыпамінае, што Б. Шоу мае прывычку ўжо шмат гадоў адказаваць што пакідае пісаць для сцэны, калі адтрымлівае прапазыцыю аб гэтым і лічыць яе для сябе нялюбай.

# *Беларусы!*

***Калі маеце дзяцей школьнага веку, дык памятайце, што да 31 сакавіка гэтага году вы павінны кожны ад сябе асобна падаць Павятоваму Школьнаму Інспэктару дэклярацыю аб жаданьні мець у вашым абводзе школу з беларускаю моваю, як выкладоваю!***

## Навіны ў тры радкі.

— У Баку (Каўказ) на бэнзыннай фабрыцы пачаўся пажар, які ўдалося загасіць газамі, што спыняюць гарэньне.

— На 16 чэрвеня сёлетняга году ў Бэрліне назначана агульная перапісь насяленьня.

— У Францыі памёр князь Г. Львоў, быўшы першым старшынёю рады міністраў Часовага Расейскага Ураду.

— У нямецкай фабрыцы парфумаў у Мадрыдзе ўзарваўся кацёл. 7 рабочых забіта, каля 20 ранена.

— У першыя дні гэт. месяца ў Канадзе (Амэрыка) было моцнае землятрасеньне, якое адчувалася ў працягу 4-х дзён.

— Па ўсёй Англіі пануе сьнежная кудаса.

— 20-га сакавіка мае пачацца конфэрэнцыя дзяржаваў Малое Антанты.

— У Тамбоўскай губ. РСФР церпяць галадоўлю 63.000 дзяцей, з якіх 15.000 адтрымліваюць падмогу.

— За студзень і люты месяцы сёл. году ў Палестыну прыбыло 3759 эмігрантаў.

— Совнарком ССРР. назначыў палітычным прадстаўніком у Японію Віктара Коппа.

— Удава па нябожчыку прэзыдэнце Нямецкае Рэспублікі будзе адтрымліваць яго пэнсію да 1 ліпня, пасьля чаго ёй вызначана пэнсія ў 7104 маркі.

— Ува ўсёй Нямеччыне захаладала. У горах Шварцвальду сьнег ляжыць на 120 сантым. таўшчыні.

— Па апошняй перапісі ў Польшчы налічваецца 2.800.000 жыдоў, або 10,3% на агульны лік насяленьня ў 27.000.000 чалавек.

— Італія адтрымала ад альбанскага ўраду вялікія концэсіі на эксплёатацыю нэфты.

— З 9 гэт. сакавіка установлена тэлеграфная камунікацыя Польшчы з ССРР.

# У С.С.Р.Р.

### Налёт на Кантору Дзяржаўнага Банку ў Слуцку.

Менская бальшавіцкая газэта „Звезда“ за 3 сакавіка г. г. піша, што ў пятніцу 27 лютага а 7 гадзіне ўвечары азброенаю бандаю з 6-х чалавек зроблены напад на Кантору Дзяржаўнага Банку ў м. Слуцку. Кантора знаходзіцца ў цэнтры гораду. Бандыты ўварваліся ў памешканьне і пачалі вязаць вяроўкамі працаваўшых служачых банку, адначасна патрэбаваўшы ключы ад касы. Зараз-жа акружным аддзелам ГПУ Беларусі будынак банку быў акружаны і цераз некалькі мінют, калі бандыты яшчэ вязалі служачых, супрацоўнікі ГПУ ўвайшлі ў кантору з мэтаю захапіць бандытаў на месцы. Апошнія, заўважыўшы акружэньне й засадку, пачалі ўцякаць, наляцеўшы на групу агентаў ГПУ. Уваходзіўшы ўпоўнаважаны акружнога аддзелу ГПУ Цыманаў забіты стрэлам аднаго з бандытаў, які ў сваю чаргу быў забіты на месцы начальнікам акружн. аддзелу ГПУ. Два бандыты былі затрыманы на месцы. Раніцай 28 лютага была затрымана й рэшта нападаўшых, пры якіх знойдзены вяроўкі, якімі яны зьвязвалі служачых дзяржаўнага банку.

### Бальшавіцкая гаспадарка.

У „Звезде“ чытаем кароценькія пісьмы ў рэдакцыю нейкіх анонімаў, з якіх відаць, як гаспадараць дасюль бальшавікі ў Менску. Гэтак, нейкі „Пацярпеўшы“ піша:

„Папсованы клёзэт (*уборная*) на 2-м паверху ў доме № 9 на вул. Валадарскага і тым, хто жыве ў 1-м паверху прыходзіцца адчуваць усе прыемнасьці пасьледзтваў: увесь зьмест клёзэту льецца фармальным чынам цераз столь у кватэры жыхароў першага паверху і напаўняе пакоі смурадам і гразёю. Хто разбудзіць камэнданта?“ — ў роспачы пытаецца гэты корэспондэнт.

А вось узорчык адносін бальшавікоў да цэрквы:

---

Ішлі ўтрох пяючы, лаючыся, чапляючы спатыканых мяшчан... Ішлі проста ў Найдуны...

Во, ўжо мінулі Місінарскі Крыж і далей, далей па вуліцы сунуліся аж на выган... Яшчэ толькі пяць вёрст па глыбокім сьнежным бездарожжы... Мяцець сьнегам віхар, круціць навакол, засыпае пад нагамі дарогу, лезе за шыю, сыпець у вочы, як-бы хочучы адстрашыць Хрытона і яго сяброў... Але што! П'янаму мора па калены..

Адыйшлі ад Лепля з паўвярсты.

Аслабелі сілы. Пастанавілі адпачыць. Селі... Дай глядзець асалавелымі вачыма па сабе і толькі цяпер агледзеліся, што бракавала ім Хрытона,—былі толькі ўдваіх.

Дзе гэта ён? Калі адлучыўся, — як і чаго?—задавалі яны сабе пытаньні, маючы і так аслабелыя ад гарэлкі галовы.

Неўзабаве забыліся пра Хрытона, марыў іх сон. Кожны меркаваў сесьці як лепей — выгадней... У вачох мярэшчыліся Найдуны... родныя... знаёмыя...

...А віхар і мяцеліца круцілі, вылі, ігралі, весялілі ды баюкалі іх, сьняжком падсыпалі ім пад сяджэньне, абкружалі іх гарушкай, каб не дакучаў халодны вецер.. Пасьля... засыпалі іх зусім зьверху, творачы над імі вялікую гурбу.

Сябры заснулі навекі...

. . . . . . . . . . . . . . . .

Дзе-ж Хрытон? Ці не вярнуўся ён у Лепле хапіўшыся, за розум?

Не! Ён адарваўся ад сяброў неспадзявана, адстаў на крок толькі, а ўжо за віхурай іх ня бачыў.

Спрабаваў крыкнуць, пазваць іх,—адразу рот засыпала сьнегам.

Маўчучы сунуўся ўперад, пасьля — ўзад, пасьля — ўлева... Усюды трапляў на мягкі сьнегавы грунт. Падумаў: — з дарогі зьбіўся. Што рабіць?—працавала хваравітая ад хмелю галоўка. Змарыўся, ногі балелі ад хадзьбы, карк ад кажуха з ярмяком.

...Дай адпачну... Прысеў. Сон скланіў яго павекі... Хвілінамі, інстынктыўна абясьсілеўшымі рукамі абціскаў сваё цела армяком і словы нейкія казаў азызлым языком:

— Хайкіла... каб цябе... хал... Давай гарэлкі...

. . . . . . . . . . . . . . . .

Сьнег сыпаў з усіх бакоў на яго, рабіў гарушку, а віхар жаласьліва — жудасна выў над ім...

*А. В.*



„Выкарыстайце цэркву пад клюб у падворку № 28 на Шырокай вул., належачым да БГУ. Цэрква стаіць закалочаная, ніхто ў яе не заходзіць".

Што гэта за БГУ трудна ведаць, але пісьмо ўпрыгожана подпісам „Дзік". Пабеларуску „дзік" — дзікая сьвіньня.

### Начальнік штабу „Зялёнага Дуба" Ксяневіч-Грач сьведкаю ў бальшавікоў.

Менская бальшавіцкая газэта на польскай мове „Młot" (№ 50) робячы справаздачу аб працэсе нападу на Койданава, быўшага 2 кастрычніка 1924 г. прыводзіць паказаньні сьведкі „быўшага капітана царскае арміі і начальніка штабу арганізацыі „Зялёны Дуб" Грача-Ксяневіча, які відаць перад Вярхоўным Судом Радавай Беларусі хоча граць ролю беларускага Савінкова. Грач паказаў, што ў ролі начальніка штабу „Зялёнага Дуба" ён трымаў непасрэдную лучнасьць з II аддзелам Польскага Гэнэральнага Штабу цераз паручніка Блонскага. Не шкадуе Грач словаў, каб пахваліцца, што яму даваліся II аддзелам розныя даручэньні рабіць напады, як напр. на поезд Баранавічы - Менск, у якім ехала аднаго разу савецкая дэлегацыя(?). Невядома колькі ёсьць у паказаньнях Грача праўды, але ён па прапазыцыі бальшавіцкага пракурора паказаць яму адну фатаграфію адразу пазнае па фатаграфіі забітага начальніка койданаўскага нападу Камінскага нейкага Прухневіча агента дэфэнзызы,—паводлуг словаў Грача—з 1920 г.

Цікава, што гэта ўжо ня першы працэс у Менску, дзе Грач, як відаць з бальшавіцкае прэсы, выступае якбы спэцыяльным „казённым" сьведкаю абвінавачаньня.

„*Быль молодцу не в укор*",—мабыць думаюць аб Грачу бальшавікі! І па-свойму яго карыстаюць, як хочуць, лічачы самым верным сьведкаю.

### Прыгавар па справе рэзьнікаў.

У **Менску** скончылася ў судзе справа аб забойстве жыдоўскімі рэзьнікамі Зайчыкам, Рапопортам і Сьвежаноўскім рэзьніка новай бальшавіцкай фармацыі нейкага Дройніна. Зайчык засуджаны на 15 гадоў вастрогу, Рапопорт на 3 гады, а Сьвежаноўскі на 2 гады з залічэньнем часу адседжанага да суда.

### Палажэньне чугуначнага транспорту.

Агулам у распараджэньні НКПС на 1 лютага паравозаў было 20.331 адзінкі. З агульнага ліку паравозаў меўшых дыфэкты было 10.623 або 53,3$_0/^0$. На 1 студня лік хворых паравозаў быў 10.630. З агульнага ліку здаровых паравозаў у 9.651 адзінку на 1 лютага было 2.722 ахалоджаныя (не функцыянаваўшыя) паравозы, якія пакуль што ня маюць ужытку з прычыны слабога разьвіцьця тэмпу перавозак. Лік таварных адзінак дасягае 430.906 адзінак, з якіх у парадку 320.095 вагоны і 110.813 хворых вагонаў. Пасажырскіх вагонаў налічваецца 29.261 у параўнаньні з 29.589 на 1 сьнежня леташн. году. З іх хворых 16.578 або 26 процантаў ад агульнага ліку пасажырскіх вагонаў.

Главметал заказаў трэстам збудаваньне у бягучым годзе 143 паравозаў, рэмонт 112 паравозаў і рэмонт 900 вагонаў агулам на суму 25.314.000 рублёў.

### Хлеб даражэе.

Апошнімі днямі, як піша „Экономическая Жизнь" на маскоўскім хлебным рынку пачалі крута павялічвацца цэны на ўсе хлебныя прадукты. Асабліва падаважэла крупчатка — за тыдзень з 6 руб. 20 коп. да 7 руб. 60 коп. пуд. Пшанічная мука 2-га гатунку падаражэла з 4 руб. 50 коп. да 4 руб. 70 коп. за пуд.

---

# ТУТЭЙШАЯ ХРОНІКА.

= **Павялічэньне ліку слухачоў на настаўніцкіх курсах**. На мінулым тыдні вярнулася з Варшавы дэлегацыя Часовае Беларускае Рады ў складзе Старшыні п. А. Паўлюкевіча і таварыша старшыні Ф. Аляхновіча. Як даведалася дэлегацыя, Прэзыдыум Рады Міністраў пастанавіў павялічыць лік слухачоў на настаўніцкіх курсах у Вільні і ў Кракаве да 200 чалавек. Дэлегацыя прасіла якнайхутчэй пусьціць у рух курсы ў Вільні на 100 чалавек.

= **Спыненьне абароту пяцізлотных банкнотаў**. Польскі банк пачынае паступова выбіраць з абароту 5 злот. банкноты.

Пошта ўжо загадала сваім падуладным установам затрымоўваць наплываўшыя ў іх касу 5 злотныя банкноты і адсылаць іх у гэнэральную дырэкцыю пошты.

= **Цыркуляр аб абыватэльстве на ўсходніх землях**. Дэлегатура ўраду ў гор. Вільні адрымала ўжо цыркуляр міністэрства ўнутраных справаў аб упрошчэньні працэдуры надачы „абыватэльства" сельскаму насяленьню на ўсходніх землях.

Зараз-жа, адтрымаўшы інструкцыі ад старостаў, войты будуць рабіць у сваіх валасьцёх рэгістрацыю насяленьня, якое будзе падзелена на тры катэгорыі.

У першую будуць залічаны заўсёдныя жыхары воласьці, якія не выяжджалі ў Расею, маюць надзеленую або купленую зямлю, зьяўляюцца арандатарамі або сельскімі рабочымі, заўсёды жыўшымі ў данай мясцовасьці.

Да другой катэгорыі будуць залічаны заўсёдныя жыхары воласьці, якія выяжджалі і ў час оптацыі вярнуліся з Расеі да 1 мая 1922 г., а з Каўказу і з Азіяцкае Расеі — да 1 ліпня 1922 г.

І да трэцьцяй катэгорыі будуць упісаны ўсе іншыя жыхары воласьці.

Пасьля рэгістрацыі войты саргаызуюць грамадзкія камітэты з удзелам усім ведамых і паважаных асобаў, якія належаць да I катэгорыі. Гэтыя камітэты перагледзяць зробленыя сьпіскі жыхароў і выкажуцца аб кожным, унесеным у гэтыя сьпіскі. Пасьля рэгістрацыйныя сьпіскі будуць пасланы на зацьверджаньне старосты, а пасьля будуць у валасьцёх выстаўлены ў відочным месцы на пэўны час, каб кожны мог праверыць, ці правільна была зроблена рэгістрацыя. Пасьля назначанага сроку, залічаныя ў першую катэгорыю адтрымаюць пасьведчаньне войта, што паказчык гэтага ёсьць полскі грамадзянін.

На падставе гэтага пасьведчаньня жыхары кожнай воласьці адтрымаюць дзе захочуць, пашпарт. Жыхары другой катэгорыі павінны запоўніць некаторыя фармальнасьці і таксама будуць мець права адтрымаць аўтаматы на пашпарт. А жыхары III катэгорыі павінны будуць старацца адтрымаць абыватэльства звычайным парадкам.

Гэты загад не датычыцца гарадоў (Вільні), мястэчак і гарадзкіх асадаў.

---

### Арышт прэзыдыуму віленскага камуністычнага камітэту.

Нядаўна палітычная паліцыя г. Вільні арыштавала галоўных кіраўнікоў віленскага акружнога камітэту камуністычнае партыі Заходняй Беларусі Абрама Балока, Эльштэйна і Генса.

Абставіны, якія выклікалі гэтыя арышты былі вось якія: ўночы на 1 е траўня 1924 г., а пасьля ў першыя дні траўня палітычная паліцыя арыштавала каля 120 чалавек, абвінавачаных у прыналежнасьці да камуністычнае партыі. У некаторых арыштованых былі знойдзены пячаткі і бланкі акружнога камітэту Заходняе Беларусі, сем пудоў літэратуры, а таксама касовыя кнігі і пратаколы паседжаньняў камітэту. Пасьля гэтых арыштаў застаўшыяся на свабодзе сябры акружнога камітэту камуністычнае партыі баяліся зноў пачаць сваю дзеяльнасьць і былі заняты выключна выясьненьнем асобы правакатара, які пранік да іх і выдаў паліцыі месца, дзе знаходзілася арганізацыя. Баючыся новых арыштаў, дзеля таго, што паміж камуністымі быў правакатар, акружны камітэт ня выносіў ніякіх пастановаў. Пасьля доўгага прасочаньня прэзыдыум акружнога камітэту зрабіў вывад, што „правакатарам" зьяўляецца Абрам Балок, якому цэнтральны камітэт камуністычнай партыі даручыў арганізаваць у Вільні камуністычныя ячэйкі. Па прысуду акружнога камітэту пастаноўлена Балока (па прафэсыі літографа) забіць. Гэты прысуд павінны былі выпаўніць сябры камітэту Эльштэйн і Генс.

Уночы на 1 студня гэт. году Эльштэйн і Генс завялі паашуканску Балока на вуліцу Бакшта і там Эльштэйн два разы стрэліў у Балока з рэвальвэра: адна з куляў прастрэліла яму грудзі наскрозь. На гук стрэлаў прыбегла паліцыя і Эльштэйна арыштавалі, а Генсу ўдалося ўцячы.

Арыштованы Э. заявіў, што ён страляў у Б. дзеля таго, што той назваў яго нарачоную простытуткай. Ранены Балок, сьцяміўшы, што тут нейкае непаразуменьне, не пярэчыў і пацьвярдзіў паказаньні Эльштэйна.

Пасьля шасьцёх тыдняў Б. выздаравеў, а справа была перадана крымінальнай уладзе.

Але палітычная паліцыя г. Вільні ў хуткім часе пачала дагляд за Балокам і выясьніла, што ён быў ранены праз непаразуменьне сваімі партыйнымі сябрамі, і што цяпер пасьля выясьненьня гэтага непаразуменьня ізноў займаецца арганізацыяй камуністычных ячэек.

На днях усіх трох: Балока, Эльштэйна і Генса арыштавалі. Апошняму з іх, прадбачыўшаму арышт, удалося ўжо дабрацца да савецкае граніцы і яго затрымалі ў 2-х кілёмэтрах ад яе са значнай сумай грошай, золата, шыфрованымі паперамі і камуністычным білетам.

(„Вил. Утро").

---

# УСЯЧЫНА.

### Спосаб шуканьня... мужа.

Селянін з вёскі Танья ў Вэнгрыі, нейкі Шабо, злавіў жоўты пузырчык, падаўшы на зямлю. Да гэтага пузыра было прычэплена пісьмо, напісанае панямецку: „Паздраўляю ад цэлага сэрца таго, хто знайдзе гэты пузырчык. Я 16-цьгадовая, прыгожая і вельмі спрытная дзяўчына. Надаюся да выхаду замуж і дзеля гэтага хацела-б знайсьці нарачонага. Калі ён мае багацьце, дык яшчэ лепей. Прашу паведаміць мяне адкрыткаю, дзе гэты пузырчык упаў, хто яго знайшоў і ці гэты чалавек можа ажаніцца. „Бэрта Эсьсіх, Нэймаркт, Аўстрыя". Алеж-ж гэтая дзяўчына, што гэтак жадае пайсьці замуж, ня мае, як відаць, шчасьця, бо Шабо, які знайшоў пузыр — ужо жанаты!?

### „Пэрсіянін" з Чалябінску.

У канцы мінулага месяца італьянская паліцыя арыштавала ў Рыме нейкага Элію Вішнеўскага, родам з места Чалябінску, які чамусьці зьяўляецца пэрсідзкім грамадзянінам. Па прафэсіі Вішнеўскі нібыто цыркавы артыст, акрабат, прыехаўшы ў Італію з жонкаю Нінаю Тасан-Оглу, навёў жах на рымскіх крамнікаў: прыходзячы ў крамы, як быццам дзеля купляньня розных рэчаў, ён патрапляў, навет і ў прысутнасьці іншых людзей, загіпнотызоўваць крамнікаў і змушаць іх аддаваць яму з касы некалькі банкнотаў (папяровых грошай). Дасюль зарэестровано было з дзесятак гэткіх дзівачных здарэньняў. Паводлуг заяваў пацярпеўшых, Вішнеўскі рабіў іх бязвольнымі, мармычучы нейкія вершы. Пасьля арышту ў „чараўніка" і яго жонкі знойдзена каля 30.000 лiраў грашыма, ня лічачы шмат якіх каштоўных рэчаў. Цяпер Вішнеўскі сядзіць у вастрозе. Ці ня ўдасца яму „зачараваць" сваіх даглядчыкаў, а пасьля й суд? У кожным выпадку гэтым здарэньнем моцна зацікавіліся італьянскія дактары-псыхіятры і цяпер паўстала пытаньне аб навуковых досьледах над спрытным „пэрсіянінам" з Чалябінску.

### Ліга праціўнікаў мужчынскага каўнерыка.

Есьць на сьвеце ня толькі праціўнікі гальштука. Ваюющь некаторыя ягомасьці і з модаю насіць каўнерык. Гэткая ліга праціўнікаў яго заложылася—натуральна што ў Амэрыцы — па ініцыятыве нейкага д-ра Шэнкля, які сваю варожасьць да гэтае часьці мужчынскае вопраткі апірае на тым, што каўнерык шкодзіць здароўю, таму што ён сьціскае шыю і затрудняе дыханьне. Затым каўнерык не дапушчае да шыі сонца, а гэта, як здаецца п. Шэнклю, цягне за сабою хваробы горла. Новая процікаўнерная ліга набрала шмат староньнікаў, нібыто каля 3-х мільёнаў сяброў.

Не шкодзіць заўважыць, што сто з лішкаю гадоў назад у 1819 годзе якраз з Амэрыкі перанесена была ў Эўропу мода насіць каўнерыкі.

### Цудам вылячыўся.

І ў нашыя часы здараюцца цуды. У штаце Арызона некалькі дзён назад быў выпадак, што незьлячыма хворы вылячыўся праз вось якія акалічнасьці:

Прасьледаваны паляўнічымі мядзьведзь, са страху перад прасьледаваўшымі яго людзьмі, забег у хатку, якая стаяла каля лесу. У хатцы гэтай ляжаў ужо некалькі гадоў хворы на паляруш, які сам ня мог навет павярнуцца на ложку. Убачыўшы медзьвядзя хворы, выскачыўшы цераз вакно, сам пабег у вёску клікаць на падмогу. Наляцеўшыя сьледам за медзьвядзём паляўнічыя забілі яго на месцы, а хворы ўжо не вярнуўся ў пасьцель, прыйшоўшы гэткім нязвычайным здарэньнем да сваіх патрачаных раней сілаў.

## Паштовая скрынка.

*Юдыцкі Мацей, Каршун Пiлiп, Шарамэт Мікола, Блансевіч Язэп, Маляўка Вера, Кайкоўскі Аўгень, Угліх Аляксандр, Барысэвіч Сьцяпан.* Пробныя №№ высылаем. Калі хочаце адтрымліваць газэту заўсёды — прышлеце падпісныя грошы.

Рэдактар - Выдавец **Язэп Салавей**

Друкарня „Lux", вул. Жэлігоўскага, 1. Тэлеф № 203.